„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr.



# Ніва



№ 22 (66) БЕЛАСТОК, 2 ЧЭРВЕНЯ 1957 г. ГОД II

WIKTOR GOMULICKI

## NA BIAŁEJ RUSI

Na białoruskich polach cisza senna leży,
Jak przedporanna mgła;
A w białoruskich chatach płynie szept pacierzy,
I skrzypka tęsknie gra.

I słońca bledsze tu promienie,
I tajemnicze w twarzach cienie,
I jakieś ducha zatajenie,
Co, mimo wszystko — trwa.

Białoruska dziewczyna nigdy nie wybucha,
Rzadki też u niej śmiech,
Lecz ma w sobie silnego, upornego ducha,
Anioła niskich strzech.

A w obyczajach jej stateczność,
A w jej obejściu się serdeczność,
A gdy pokocha, to na wieczność,
Bo łamać wiarę — grzech.

Białoruscy wieśniacy — smętni myśliciele;
Ociężały ich krok;
Cisi w polu i chacie, w karczmie i kościele,
Półsenny mają wzrok.

„Ty śpisz, a dola twoja rośnie",
Słychać tu zimą i o wiośnie —
I tak, pół-rzewnie, pół-radośnie
Płynie za rokiem rok.

Białoruskie sumienia nie lubią odmiany —
Wszak zawsze świat ten sam!
Słuchają co krzyż mówi, co szepczą kurhany —
Ciągnie je tu i tam...

I słyszą Boga w wichrów chórze,
I w całej widzą Go naturze —
I w rozerwanej gromem chmurze
Szukają w niebo bram.

O białoruska mowa! Twój dźwięk śpiewny budzi
Echa zamarłych lat...
Ty jesteś mową białych, mir czyniących ludzi,
Puszcz wonnych, jasnych chat.

Tam, gdzie słowiańskie włada słowo,
Ty dzwonisz nutą skowronkową —
O szczebiotliwa, słodka mowo,
Miodna, jak lipy kwiat!

O białoruska pieśni! Ty, jak kraj ten cały,
Posępny nosisz wdzięk;
Kurhany i mogiłki nutę ci podały
I kmieciów dawnych jęk...

Dziś kwitniesz dziko w zapomnieniu,
Lecz, gdy cię wzniesie mistrz w natchnieniu,
Świat uczci ciebie w podziwieniu,
Bo nowy dasz mu dźwięk.

O białoruski ludu! Ścichną kiedyś burze,
Które nam zsyła los;
Wówczas, w słowiańskich plemion zespolonym chórze
I twój też zabrzmi głos.

A głos ten będzie serafowy,
Na kształt ptaszęcej rannej mowy,
Z serca płynący, a nie z głowy,
Dźwięczny, jak pełny kłos...

ВІКТАР ГОМУЛІЦКІ (1851—1919) — вядомы паэт і празаік пары польскага пазітывізма, прыяцель беларускага народу. Верш «На Белай Русі» першы раз быў друкаваны 11 ліпеня 1908 года ў варшаўскім тыднёвіку «Тыгоднік Ілюстраваны», № 28. Пасля ён быў памешчаны ў зборніку вершаў паэты «Святла». (Вільня, 1919 г.)



*1 чэрвеня Міжнародны Дзень Дзяцей.*
*На здымку скульптура З. Азгура «Ленін з дзяўчынкай».*
*фото — І. Салавейчыка.*

## Дзіця чакае на тваю помач

Колькі хвалявання, колькі радасці і шчасця адчуваем тады, калі прыйдзе на свет дзіця.

З'яўляецца новы чалавек новы разумны твор. Наш воблраз. Не, мы бачым у гэтым дзіцяці нешта перавышаючае нас. Мы перакананы, што з гэтага нашага дзіцяці будзе самы лепшы і разумнейшы чалавек. Стараемся даць яму ўсё тое, чаго нам калісь у дзяцінстве не хапала.

Калі яно падрасце (тут трэба прызнацца!), скідаем справу выхавання на дзіцячы сад, на школу і г. д.

Мы стараемся даць з сябе ўсе сілы, каб падтрымаць соцыялістычны лад, які прынясе чалавецтву ўсё, што для яго лепшае і шчаслівейшае.

І як-жа часта пры гэтым забываемся мы пра дзеці, асабліва пра свае дзеці.

Часта гаворым, што дзеці дрэнна захоўваюцца. Мы нават дзівімся, што могуць быць такія бацькі, якія не звяртаюць увагі на выхаванне сваіх дзяцей.

Іншыя бацькі думаюць тое-ж самае гледзячы на нашыя дзеці.

З трывогай прызнаем, як шырацца злачынствы. Мы нават не агледзеліся, калі тое самае нашае дзіця, ад якога спадзяваліся толькі добрага ўбачыць зрабілася злачынцам.

Ці-ж мы памагалі школам, дзіцячым садам у іх цяжкай працы над выхаваннем нашых дзяцей?

Дзеці чакаюць на нашую помач. І вось, пад такім загалоўкам, у мінулую нядзелю адбылася ў Варшаве Дзяржаўная канферэнцыя, на якой паклікана новую арганізацыю. Арганізацыя гэтая ўспрыме ўсе добрыя традыцыі з РТПД, ХТПД і ТПД. З ёю будзе супрацоўнічаць Міністэрства ўнутраных спраў, Міністэрства асветы, Міністэрства здароўя і грамадскай дапамогі, ПЦК.

Арганізацыя заклікае, да супрацоўніцтва ўсіх людзей, каму справа выхавання ляжыць на сэрцы.

І. РЫБІНСКІ.

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



